Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя і Адміністрацыя — Вастра-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 10—3 гадз.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. 3 безработных за усю абвестку 2 рублі.

Год I. Вільня, Чацьвер, 3 ліпня 1919 г. № 35.

## ЛЮБЛІНСКАЯ УНІЯ.

350 гадоў таму назад паміж Літоўска-Беларускім гасударствам і гасударствам Польскім была заключана Унія, аб'еднаўшая абодва гасударствы ўвадно. Літоўцы, беларусы, украінцы (часьць) і палякі зграмадзіліся разам, каб быць дужэйшімі проціў сваіх ворагаў-немцаў і расейцаў.

Вядома, што ніхто і ня думаў тады, каб унію стварыць праз народы. Не такія тады былі часы. Унію стварылі бяз волі народаў паны-шляхта. Літоўская, беларуская, польская і украінская шляхта зьехаліся у 1569 годзе ў польскі горад Люблін і падпісалі унію. Народы, каторых паны-шляхта лічылі проста „быдлам", павінны былі, як заклікаў тады польскі кароль Сыгізмунд Аўгуст, «баяцца гнева Божага, каторы мае ў ненавісьці і праклінае сеючага нязгоду паміж братамі». Кароль Сыгізмунд Аўгуст знаў добра, што ён робіць; знялі добра, што рабілі, і паны-шляхта, калі яны падпісалі Люблінскую унію. Не зналі толькі нічога народы, каторым і да гэтай пары ніяк не ўцяміць, што яны — простыя лялькі, каторыя можна класьці то ў вадну калыску, то ў другую і потым казаць ім, што яны браты паміж сабою.

І вось гэтыя «браты паняволі», каторых гісторыя у 1569 годзе злучыла ў вадно гасударства, апынуліся потым у Расеі, каторая адабрала ад Польшчы Украіну, Беларусь і Літву, ізноў сталі на доўгі час «братамі» і павінны былі ізноў баяцца гнева Божага і усялякіх іншых кар з другога боку, бо «так угодно было Его Величеству».

Цяперашняя рэвалюцыя скасавала правы «Их Величеств» рабіць «братамі» па прыказу тыя народы, каторыя ім удавалася захапіць пад сваю ўладу сілком. Цяпер гісторыю робяць іх вялікасьці—народы. Ім прыходзіцца самым клапаціцца аб сабе, але-ж ім прыходзіцца і несьці на сваіх плячох і паследзтва працы паноў-шляхты і іх вялічаствау.

Цяпер, калі Польшча ізноў паўстала з-пад расейска-нямецкага ўціску, калі Літва і Беларусь таксама дабіваюцца быць вольнымі, і можа блізак той час, калі яны і стануць вольнымі, прысьпеў юбілей Люблінскай уніі, створанай 350 гадоў таму назад яго вялічаствам і панамі-шляхтай. І вось мы бачым, што цяпер ёсьць людзі, каторыя ўспамінаюць гэту унію, хто з прыемнасьцю, хто з горкасьцю. Адны хочуць, каб унія ізноў паўстала, другія ня хочуць гэтага. Адны кажуць, што унія прынесла шчасьця аб'еднаўшымся народам, другія—што яна надзела ланцугі на слабейшыя народы, зьнііштожыла іх культуру і прывела хваробу... палянізацыі.

Мы, беларусы, належым да катэгорыі людзей, скрыўджаных і вельмі скрыўджаных уніяй.

Апрача горкай нядолі, у якой і цяпер яшчэ знаходзіцца наш народ, унія нам нічога не дала. Калі ня быць незалежнымі, то мала шчасьця, ці сядзімо мы ў зялезнай клетцы, ці ў меднай. З гэтым усякі згодзіцца, навет той, хто ўмаўляе нас ізноў сесьці ў старую клетку, наново адрэмантыраваную і навет пазалочаную.

Унія з Польшчай ня выратавала Беларусі ад маскоўскай няволі. Праўда—ня выратавала Люблінская унія і Польшчы ад падзелаў. Польшча дарэмна толькі шукала ратунку ад гібелі ў пашырэньні сваёй тэрыторыі і павялічаньні лічбы людзей, каторыя-б сваёй большасьцю ўнушалі суседзям страх перад магутнасьцю Польска-Беларускага гасударства.

Ня ў гэтым быў ратунак Польшчы, што і паказала скора і гісторыя. Дзякуючы ўціску польскай шляхты над народам, ў гэтым гасударстве ня было супакою. Народ стагнаў пад гвалтам паншчыны і усялякага зьдзеку. Польскія парадкі тых часоў перакінуліся патроху і на Літву і Беларусь.

К гэтаму на Літве і Беларусі польскія палітыкі далучылі яшчэ сваю нецярпімасьць да праваслаўных схізматыкаў і да людзей іншых нацыянальнасьцяў, якімі былі беларусы і літвіны. „Брацтва", ў якое кароль Сыгізмунд Аўгуст і Польшча ўцягнулі беларусаў і літвіноў, патроху стала для іх няволяй: Паншчына, нацыянальнае і рэлігійнае ганеньне—вось у чым найбольш праявіла сябе Польшча ў адносінах да нас пасьля Люблінскай Уніі.

Беларускія і літоўскія паны, заключыўшыя Люблінскую унію, патроху сталі адмаўляцца ад сваей нацыянальнасьці і дзеля почасьцяў і іншых жыцьцёвых карысьцяў сталі пераходзіць у польскі лагер. Нацыянальная ідэя, якою жылі ў пару Вялікага Княжства Літоўскага беларускія і літоўскія паны, стала цярпець розныя прашкоды і заменяцца ідэяй жывата, што-б там ні было. Толькі адзінічныя асобы не здаваліся і вялі барацьбу з польскім шовіністычна-клерыкальным націзкам.

Чым далей, тым ўсё было горэй. Сярод беларускіх і літоўскіх паноў ўсё больш і больш станавілася здраднікаў і перакінчыкаў, бо аставацца на Беларусі беларусам, а на Літве літвіном станавілася немагчымым. Хто прадаваўся ў Польшчу, а хто уцякаў у Маскву, каторая ўсе больш і больш умацоўвалася і пагражала Польшчы адабраць Літву і Беларусь. Беларусь чакала вызваленьня з няволі, каторую ёй Польшча падмяніла «брацтва», і хоць маскоўцы таксама былі чужынцамі, але ў той час многім беларусам здавалася, што маскоўцы выратуюць Беларусь ад страшэннага клерыкальна-нацыянальнага польскага гвалту. Цяпер ўсё гэта ў дал ёкай мінуўшчыне. Старыя балячкі патроху загаіліся, але пакінулі па сабе рубцы. Баяцца таго, каб ізноў Беларусь не ачынулася ў палажэньні, у якое яна стала пасьля Люблінскай уніі, нас палохае.

Што-б было, каб і цяпер, як і пасьля Люблінскай уніі, наша інтэлігенцыя стала перакідацца ў Польшчу і здраджаць сваю бацькаўшчыну?

Князі Чартарыйскія, Масальскія, Сангушкі, Вішнявецкія, Астрожскія, Слуцкія, Збаражскія, Заслаўскія, Рожынскія, Саламэрэцкія, Галоўчынскія, Сакалінскія, Лукомскія, Пронскія, Горскія, Крошынскія, Пузіны, а таксама паны—Огінскія, Пацеі, Сапегі, Ходкевічы, Пацы, Сасноўскія, Хрэбтовічы, Глебовічы, Валовічы, Тышкевічы, Зеновічы, Халецкія, Корсаковы, Войнавы, Трызны і інш., каторым няма лічбы,—усё гэта была беларуская шляхта, каторая пасьля Люблінскай Уніі патроху спаланізавалася і цяпер лічыць сябе палякамі.

Нам беларусам-дэмакратам, ня хочучым рабіць новыя экспэрымэнты над народам, ніколі не забыць гэтай цяжкай стра-

пратэсту. Есьць пэўныя весткі, што ў арганізацыйны камітэт гэтага пратэсту увайшлі з аднаго боку спартакаўцы, з другога—прадстаўнікі правых партый. Магчыма, што гэта дэманстрацыя выльецца ў паўстаньне.

### Кронпрынц у Нямеччыне.

ВЕНА, 28 чэрвеня. Амэрыканскія газэты падаюць да ведама з Парыжу, што кронпрынц уцёк з Галяндзіі ў Нямеччыну. Амэрыканская прэсса прыдае гэтаму факту вялізнае значэньне і запэўняе, што кронпрынц, напэўне, стане на чале ваеннай партыі, супрацiўнай падпісаньню міра.

«Der Abend», наадварот, піша, што весткі гэтыя ня маюць пад сабой грунту. (БВД).

### Гібель Балтыцкага флоту.

ЛЕНДАН, 28 чэрвеня. Англійскай эскадрай патоплен у вадзе Кранштадту бальшавіцкі браняносец „Андрэй Первазванны". Лінейны крэйсер «Петрапаўлаўск» вывесіў белы штандар.

В «Victorie» пішуць з Лёндана ад 20 чэрвеня, што водле тэлеграмы бальшавікоў, англійская падводная лодка патапіла 18 чэрвеня каля Таубушынскага маяка крэйсер «Алег».

Лінейны параход «Слава», што ўваходзіў у лік бальшавіцкай эскадры, патоплен англічанамі.

Узорваная англічанамі «Слава» была адна з старэйшых суднаў Балтыцкага флоту. Гэты браняносец, зроблены Петраградскім Балтыцкім заводам і спушчаны ў ваду у 1903 г., меў скорасьць у 18 вузлоў і быў ўзброяны 4 дванацацёх-дзюймовымі і 12 шасьці-дзюймовымі арудзьдзямі. (БВД).

## Беларусь.

### (Рудомінская вол, Віленскага пав.)

Гамонячы з сялянамі, я часта чуў, як яны гаруюць аб тым, што скора ня будуць мець чаго есьці. На пытаньне чаму гэта так, яны кажуць: уцяклі расейцы і вывязлі, што маглі, прыйшлі немцы і зрабілі тое самае... Праўда, немцы хоць і бралі, але-ж яны і давалі. Напрыклад: немцы бралі свае „центы" ад жыхароў, але глядзелі, каб усе палеткі былі абсеяны збожжам на што яны давалі насеньня, і абсаджаны бульбаю. Цяперака, як прыйшлі паляці, дык на вёсцы толькі бяруць. Праўда, што яны даюць, напрыклад бульбу (5 хунт. на душу) муку (2½ хунты на душу) за грошы і толькі тым, у каго нічога няма, а ў каго што-небудзь ёсьць, як напрыклад, хоць адна якая-колечы кароўка, таму нічога не даюць, кажуць, што з кароўкі можна пражыць. З гэтага выходзіць, што той, каторы нічога ня мае, зьесьць і тое, што яму дадуць і нічога не пасее, а той, хто можа пасеяць, не мае чаго пасеяць, і яму не даюць чым сеяць, а жаунеры, што стаяць па вёсках, бяруць што у каго можна. Вось з гэтага і выходзіць, што сяляне праўду кажуць, што хутка есьці ня будзе чаго. Жаўнераў за гэта вінаваціць няма чаго; таму шкодай тая самая вайна.

Далей яшчэ і такая справа: сяляне баяцца гадаваць якую колечы жывёлу, бо як яна толькі хоць трошкі падрасьце, дык яе і забяруць па цьвёрдых стаўках, купляць-жа прыходзіцца дарагім коштам. Сяляне застаюцца пры аднэй кароўцы (ды часта яшчэ пры перадойцы), церпяць посьніцу, а другую кароўку баяцца завадзіць, або трымаюць толькі козаў. Калі хто мае добрага каня, дык яго бяруць куды-небудзь ехаць і гэтыя паездкі бываюць тым часьцей, чым конь лепшы; а тымчасам працаваць і некаму і нечым. Хаця-ж дажджы цяпер і паправілі пасевы і навет і дабра, але таго дабра, каторае будзе забрана усё-ж будзе мала, бо трэба карміцца ня толькі самім жыхаром, але яшчэ і войскі патрабуюць і хлеба і фуражу. Цяпер вось пара ўжо касіць, а сяляне баяцца, бо пры немцах усё гэта было адобрана, і скаціну кармілі верасам, які даставалі з-пад сьнегу.

Ось і выходзіць, што калі вайна гэта яшчэ прадоўжыцца, дык і запраўды есьці ня будзе чаго, а амэрыканскі пірог хоць і смачны, але ня для ўсіх.

*Я. Як.*

## У ВІЛЬНІ.

### Харчы.

Сэкцыя стрававваньня пры Магістраце паведамляе, што пшонную муку на адрэзы № 5, тлустасьці на адрэз. № 6 і цукар на адр. № 7 ў мястовых крамах будуць выдаваць насяленьню толькі да суботы ўлучна, г зн да 5 гэт. м-ца. Хто да гэтай пары гэтых прадуктаў ня возьме, пасьля ўжо не дастане.

### Мястовыя падаткі.

На адным з апошніх сваіх пасяджэньняў Магістрат м. Вільні апрацаваў праэкт падаткаў на карысьці места. Вось у каротк'іх словах гэты праэкт:

*Падатак ад нярухомасьцяў.* Нярухомасьці, якія ёсьць на тэрыторыі м. Вільні, апрача сьвятыняў усіх рэлігіяў, нярухомасьцяў, якімі валадае места, нярухомасьцяў, якімі валадаюць навуковыя, асьветныя і дабрачынныя ўстановы, будуць ападаткованы на карысьць места.

Пры назначаньні падатку бярэцца пад увагу агульны доход ад нярухомасьці. Даход аблічаецца паводле цаны найму ўсіх частак нярухомасьці (кватэры, розныя будынкі, агароды, сады і г. п.).

Падатак устанаўляецца гэтакі:

ад маетнасьці, якая дае да 1000 р. даходу—5 прац.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| ад | 1000 | да | 2000 | р. даходу | — 6 | прац. |
| „ | 2000 | „ | 5000 | „ „ | — 7 | „ |
| „ | 5000 | „ | 9000 | „ „ | — 8 | „ |
| „ | 9000 | „ | 15000 | „ „ | — 9 | „ |
| „ | 15000 | „ | 40000 | „ „ | —10 | „ |
| і вышэй за | | | 40000 | „ „ | —12 | „ |

У гэтакім прыпадку, калі будзе дакажана, што маетнасьць зруйнована і зусім не дае ніякага даходу, Магістрат можа звольніць гэтакую маемасьць ад падатку.

*Падатак ад рэстаранаў, гасьцініц і інш.* Усе гаспадары гэтакіх прадпрыемстваў, як: рэстараны, буфэты, гасьцініцы, цукерні, кавярні, страўні і г. п. павінны атрымаць пазваленьне ад Магістрату і заплаціць падатак. Каб атрымаць пазваленьне, гаспадар прадпрыемства павінен падаць Магістрату анкету паводле прымерніка, які атрымае з Магістрату, і заплаціць 100 руб., як частку належнага падатку. Магістрат мае права адмовіцца выдаць пазваленьне або адабраць ужо дадзенае пазваленьне, калі захоча. Суму падатку назначае Магістрат на 1 год. Ад прадпрыемстваў, якія адчыняюцца ў сярэдзіне году або на сэзон, падатак трэба плаціць за час ад дня, калі прадпрыемства адчынілася, або за сэзон.

*Падатак ад коняў.* За кожнага каня гаспадар яго павінен плаціць гэтакі падатак: за звожчыцкага каня, або для перавозкі цяжкіх рэчаў, або ўжыванага дзеля земляробства, трэба плаціць 80 руб. у год. За каня, ужыванага дзеля прамысловых мэтаў (гасьцініцы і г. п., асэнізацыя і г. д.), трэба плаціць 100 р., а за каня для уласнага ўжытку—200 р. у год. Падатак гэты раздзелены на дзьве роўныя часткі: першую трэба плаціць заяўляючы аб кані, а другую—не пазьней 1. Х. г. г.

*Падатак ад вэласіпэдаў.* За кожны вэласіпэд трэба плаціць 15 руб. у год і належнасьць за адпаведны значок. Падатку ня плоцяць асобы вайсковыя.

*Падатак ад сабакаў.* За кожную сабаку плаціцца 10 руб. у год і належнасьць за значок. За сабак, якіх ужываюць дзеля пільнаваньня хаты і трымаюць на ланцугу, трэба плаціць толькі палову гэтае сумы.

*Падатак за кватэры.* Ад кватэрнага падатку асвабоджаны: кватэры, якія займаюць урадовыя або грамадзянскія ўстановы, школы, бальніцы, гандлёва-прамысловыя прадпрыемствы, прытулкі, дабрачынныя ўстановы, вайсковыя казармы, гасьцініцы і гэтакія кватэры, за якія плоцяць ня болей за 120 руб. у год.

Падатак назначаецца ў залежнасьці ад арэнды за кватэру ў год гэтакі:

| арэнда у год: | | | | | падатак: | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| ад | 120 | да | 200 | р. | — 2 | працэн. |
| „ | 200 | „ | 300 | „ | — 3 | „ |
| „ | 300 | „ | 500 | „ | — 4 | „ |
| „ | 500 | „ | 700 | „ | — 5 | „ |
| „ | 700 | „ | 900 | „ | — 6 | „ |
| „ | 900 | „ | 1200 | „ | — 7 | „ |
| „ | 1200 | „ | 1800 | „ | — 8 | „ |
| „ | 1800 | „ | 3000 | „ | — 9 | „ |
| „ | 3000 | „ | 4500 | „ | —10 | „ |
| „ | 4500 | „ | 6000 | „ | —12 | „ |
| і вышэй за | | | 6000 | „ | —15 | „ |

Калі кватэрант займае колькі кватэр у адным дому, дык падатак ён плоціць ад агульнай сумы арэнды за ўсе кватэры

## Да ведама кантор і газэтнікаў.

Усіх, хто хоча даставаць газэту „Беларуская Думка", просім зьвяртацца толькі у адміністрацыю газэты (Востра-Брамская. № 9) ад 5½ гадзіны раньня.



Рэдактар і выдавец У. Знамяроўскі. Друкарня «Віленскага Выдавецтва», Мала-Стэфанаўская, 23.